**Беларусь** – адзіная краіна ў Еўропе, дзе выносяцца і выконваюцца смяротныя прысуды. Пасля адмены смяротнага пакарання Узбекістанам з 1 студзеня 2008 году наша краіна засталася апошняй на постсавецкай прасторы, дзе выкарыстоўвацца гэты від пакарання.

Смяротнае пакаранне ў Беларусі выконваецца непублічна праз расстрэл. Цела для пахавання сваякам не выдаецца, пра месца не паведамляецца.

У сакавіку 2010 года ў Беларусі насуперак патрабаванням Камітэта ААН па правах чалавека былі расстраляныя **Андрэй Жук** і **Васіль Юзэпчук**. Рэспубліка Беларусь выканала гэтыя смяротныя прысуды, парушыўшы ўзятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы ў галіне правоў чалавека.

У траўні 2010 года вынесены два смяротныя прысуды, у верасні 2010 – яшчэ адзін…

## Прыйшоў час спыніць смяротнае пакаранне!

Далучыцца да петыцыі **супраць смяротнага пакарання** можна на сайце http://petition.spring96.org

***Кампанія***

*"Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі"*

1/ Ёсць верагоднасць пакарання смерцю невінаватага праз недасканаласць судовай сістэмы.

2/ Гэта пакаранне і пакуты таксама для сваякоў расстраляных.

Скажы:

# НЕ – СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ!

3/ Не з'яўляецца стрымліваючым фактарам для злачынцаў.

4/ Гэта тое ж забойства, толькі ўзаконенае дзяржавай.

5/ Гэта сярэднявечнае ўяўленне пра аднаўленне справядлівасці.



www. belhelcom.org



www.spring96.org



www.amnesty.org

## Тамара Чикунова,

### основатель и руководитель международной организации «Матери против смертной казни и пыток»:



На фота: Тамара Чыкунова

— Я приехала намеренно в Беларусь, потому что тоже стала перед фактом казни моего единственного сына 10 лет назад. Его расстреляли через 7 месяцев после суда. В тот день мне было назначено с ним свидание. Я стояла возле тюрьмы, но меня не впускали. И потом мне стало известно, что в это время его расстреливали…

И для меня не столь важно в этой ситуации, что мой сын был невиновен, а Жук совершил преступление. Доказательство вины — это дело суда, но казнь имеет страшный момент необратимости. И даже если в будущем будет доказана невиновность казненного или будет доказано, что он не настолько был виновен и можно было ему сохранить жизнь, мы уже этих людей не вернем к жизни.

Я приехала поддержать семью Андрея Жука, потому что понимаю боль и страдания его матери, я понимаю эту пытку, психологическое состояние. Я 10 лет живу в пытке. Я не знаю, где похоронен мой единственный сын, как жить дальше, как жить, когда люди не понимают, как ужесточают своим отношением к этой семье, эту скорбь и эту боль от потери близкого человека.

Никто не поймет страдания матери — только тот человек, который сам перенес это. Я — жертва государства Узбекистан, от имени которого был расстрелян мой единственный сын. Я живу в пытке и даже не могу придти на могилу своего сына и помянуть его.

Я не оправдываю преступников, которые совершили преступление. Но лишение свободы — это тяжелое наказание, и преступник за содеянное должен быть изолирован. Но убивать, выступать в роли палача мы не можем.

Мы все равны. И от того, будет преступник казнен или нет, его жертвы не станут живыми и не будет восстановлена справедливость. Только на одну жестокость станет больше.

Вы можете поддержать отмену смертной казни в Беларуси, поставив свою подпись. Она занимает 30 секунд. Но подпись может спасти жизнь приговоренному к смертной казни. Представьте себе: на одной чаше весов жизнь человека, на второй --- ваша подпись.

Я думаю, каждый живущий на этой планете может поставить свою подпись под петицией отменить смертную казнь. Чтобы наша жизнь была без этого ужаса: законного убийства людей государством.

В тех странах, где есть смертная казнь, люди забывают, что и от их имени выносится смертный приговор. От их имени осуществляется смертная казнь. Мы все, живущие в странах, где есть смертная казнь в законодательстве, принимаем прямое или косвенное участие в убийстве. Я полагаю, что если каждый живущий задумается, хочет ли он участвовать в убийстве, тогда он решит, стоит ли отдать свой голос против смертной казни или нет.

Я отдаю свой голос за отмену смертной казни. Я не хочу участвовать в преступлении, которое совершает государство, призывая меня присоединиться к этому.





На фота: Святлана Жук і Святлана Жук з Тамарай Чыкуновай

## Святлана Жук,

### маці Андрэя Жука, асуджанага да смяротнага пакарання і расстралянага ў 2010 годзе

— Як маці я да гэтага часу не магу паверыць у тое, што адбылося, што майго 26-гадовага сына ўжо няма. Страшна нават уявіць, як гэта адбывалася, як яго вялі на расстрэл…Я шмат чытала пра выкананне смяротных прысудаў у Беларусі і іншых постсавецкіх краінах, як гэта адбывалася ў савецкія часы. Страшна ад таго, што невядома, дзе пахавана маё дзіця. Страшна, што не выдаюць цела. Невыносна балюча, што не змагла развітацца, не змагла апошні раз абняць свайго сына…Мы прынеслі перадачу ў турму, а нам сказалі, каб мы яго не шукалі, яго нідзе няма, прысуд выкананы. Трэба чакаць паведамлення з суда. Так і не дачакаліся, ніхто не паведаміў афіцыйна. Толькі ў ЗАГСе мне выдалі пасведчанне аб смерці. Прычына смерці — прочырк.

Мы зладзілі памінкі. Зрабілі магілку ў вёсцы, куды б можна было прыйсці, памянуць сына, паклалі туды рэчы Андрэя, каб хоць неяк атаясамлівалася з ім. Дагэтуль партрэт Андрэя стаіць у нас з чорнай стужкай. Яго старэйшы васьмігадовы сын часта стаіць перад ім і маўчыць. Пра што ён думае ў гэты час — не ведаю…